*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай,*
*каб не ўмёрлі! Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА

№ 45(55) • 25—30 снежня 1991 г. • Штотыднёвік Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны
Кошт 10 кап. (па падпісцы — 5 кап.)

## Поступ тыдня

У АЛМА-АЦЕ ПАДПІСАНА ПАГАДНЕННЕ АДЗІНАЦЦАЦІ РЭСПУБЛІК БЫЛОГА САЮЗА АБ СТВАРЭННІ САДРУЖНАСЦІ НЕЗАЛЕЖНЫХ ДЗЯРЖАЎ. НАМЕЧАНА НОВАЯ СУСТРЭЧА КІРАЎНІКОЎ НЕЗАЛЕЖНЫХ ДЗЯРЖАЎ, НА ГЭТЫ РАЗ У МЕНСКУ. БУДЗЕ АБМЕРКАВАНА ЭКАНАМІЧНАЕ СУПРАЦОЎНІЦТВА ПАМІЖ ЧЛЕНАМІ СНД.

*ЛІДЭР ліберальна-дэмакратычнай партыі краіны Уладзімір Жырыноўскі, які гасцюе ў Менску, аб'явіў незалежнасць Беларусі фікцыяй. Яго заява выклікала рэзкі пратэст беларускіх парламентарыяў.*

«НАШ ПРАЦАВІТЫ НАРОД БЯЗВІННА ПАКУТУЕ З-ЗА БЯЗДАРНАСЦІ І НЕПАСЛЯДОЎНАСЦІ ЦЯПЕРАШНЯГА, ВЫБРАНАГА ПРЫ КАМУНІСТЫЧНЫМ РЭЖЫМЕ, КІРАЎНІЦТВА», — так гаворыцца ў заяве дэпутацкай апазіцыі ў беларускім парламенце. Апазіцыя аб'явіла аб пачатку ўтварэння Ініцыятыўнага камітэта па правядзенні ўсебеларускага рэферэндуму. Яго мэта — адстаўка ўрада, перавыбары парламента.

У МІНЮСЦЕ РЭСПУБЛІКІ ЗАРЭГІСТРАВАНА ЯШЧЭ АДНА ГРАМАДСКАЯ АРГАНІЗАЦЫЯ — БЕЛАРУСКАЕ ЗГУРТАВАННЕ ВАЙСКОЎЦАЎ.

БЕЛАРУСКІ ПАРЛАМЕНТ НАРЭШЦЕ ПРЫНЯЎ ЗАКОН АБ СВЯТОЧНЫХ ДНЯХ, ЯКІ ВЫКЛІКАЎ ДОЎГІЯ ДЭБАТЫ ДЭПУТАТАЎ. Законам адменены ўсе «камуністычныя» святы, адзначаць прадугледжана рэлігійныя і грамадзянскія — Каляды, Вялікдзень, Дзяды і іншыя.

*АДБЫЎСЯ З'ЕЗД СЯЛЯНСКАЙ ПАРТЫІ РЭСПУБЛІКІ. ДЭЛЕГАТЫ АДЗНАЧЫЛІ: УСЕ ЗАКОНЫ АБ ЗЯМЛІ НЕ ВЫКОНВАЮЦЦА.*



Не першы год працуе ў школе Наталля Дзмітрыеўна Фурс. За плячыма — тысячы ўрокаў роднай мовы і літаратуры, у кожны з якіх настаўніца ўкладвала душу і сэрца. Таму і паважае ў Старых Дарогах Наталлю Дзмітрыеўну калектыў школы № 1. За парадай да знаўцы беларускага слова звяртаюцца не толькі вучні, але і педагогі.
НА ЗДЫМКУ: Наталля Дзмітрыеўна Фурс.

Фота М. ХАМЦА.

## Стагоддзе «цёці Уладзі»

25 снежня спаўняецца 100 гадоў з дня нараджэння літаратуразнаўцы, заслужанага дзеяча культуры Беларусі, жонкі Янкі Купалы Уладзіславы Францаўны Луцэвіч.

Скончыўшы педагагічныя курсы ў Варшаве, Уладзіслава Францаўна з 1908 па 1941 год была на педагагічнай рабоце. Да Кастрычніцкай рэвалюцыі друкавала вершы за подпісам В. Станкевічанка. Для дзяцей дашкольнага ўзросту сабрала і апрацавала «Народныя дзіцячыя песенькі», склала «Зборнік вершаў для дашкольных устаноў», апрацавала народныя казкі «Як жабы бараніліся ад бусла», «Пых», «Як пеўнік казу прагнаў». Уладзіслава Францаўна з'яўляецца аўтарам шматлікіх артыкулаў пра жыццё і творчасць Я. Купалы, З. Бядулі, Цёткі.

З 1944 года да канца жыцця працавала дырэктарам Літаратурнага музея Янкі Купалы.

13 снежня на радзіме Уладзіславы Францаўны ў вёсцы Вішнева Валожынскага раёна адбыліся ўрачыстасці, прысвечаныя юбілею. З цікавымі ўспамінамі пра «цёцю Уладзю» выступіла пляменніца Купалы Ядвіга Юліянаўна Раманоўская. Яна падарыла школе бюст Купалы, які стаяў у кватэры Уладзіславы Францаўны. Перад прысутнымі выступілі супрацоўніца музея Я. Купалы М. Чабатарэвіч, валожынскі краязнавец Г. Равінскі, супрацоўнік музея Якуба Коласа І. Курбека, актыўны сябра Валожынскай раённай рады ТБМ М. Трапашка, а таксама паэты П. Прыходзька і В. Шніп. Школьнікі малодшых класаў выканалі народныя песні, якія любіла Уладзіслава Францаўна.

*Рэха*

## ЦІ ЁСЦЬ У ЛДП БЕЛАРУСЫ?

У Менску створаны Беларускі рэгіянальны камітэт Ліберальна-дэмакратычнай партыі СССР, ці інакш кажучы — «партыі Жырыноўскага».

Практычная дзейнасць і праграма ЛДП грунтуюцца на ідэі адзінства тысячагадовай Расіі. Ліберальныя дэмакраты, ганячы «Кароткі курс ВКП(б)», звяртаюцца да прац гісторыкаў і філосафаў Карамзіна, Салаўёва, Ключэўскага, Бярдзяева...

Падаючы справаздачу пра арганізацыйны сход ЛДП у Менску, вайсковая газета «Во славу Родины» назвала публікацыю «Ёсць у ЛДП і беларусы». Так, згодна з адзнакай у пашпарце — ёсць. Але ж ці можна называць беларусамі людзей, якія забываюцца на ўсё беларускае, актыўна прапагандуюць расійскія вялікадзяржаўныя ідэі?

Чаму ў нас на Беларусі сваё, роднае мы заўжды адсоўваем на другі план, шукаем нейкі крымінал, калі справа датычыць, прыкладам, таго ж БНФ? І адначасна з поўным даверам адносімся да нінаандрэеўскага неабальшавізму, да вялікадзяржаўных амбіцый псеўдабарацьбітаў за дэмакратыю Жырыноўскага.

Чаму Менск гасцінна расчыняе дзверы перад усялякімі эмісарамі, для якіх чужымі застаюцца і духоўнае адраджэнне, і ідэі палітычнай, эканамічнай, нацыянальнай незалежнасці Рэспублікі Беларусь? Тым больш — чужым застаецца для іх беларускае слова.

Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.

## Каб не згубіць духоўны воблік...

*З нагоды адной публікацыі*

Праблема адраджэння роднай мовы вельмі хвалюе нацыянальна свядомых беларусаў. Без матчынага слова народ губляе сваё духоўнае аблічча: гінуць гістарычная спадчына, нацыянальная культура, зарастаюць дзірваном вытокі этнагенезу. Праблема выжывання беларусаў як нацыі, праблема захавання мовы — прадмет шматлікіх газетных дыскусій.

Не засталася ў баку ад гэтых праблем і газета «Рэспубліка», надрукаваўшы артыкул Святланы Герасімавай «Язык — возрождение, или коллективизация?» Аўтар ва ўступнай частцы канстатуе прычыны, якія падштурхнулі яе ўзяцца за пяро: гадавіна ўступлення ў сілу Закона аб мовах і інтэрв'ю, якое даў «Настаўніцкай газеце» народны дэпутат Яўген Цумараў. Святлана Герасімава піша: «...Евгений Цумаров оптимистично высказался в том, что в Белоруссии созрели условия для ускорения реализации Закона... У меня такого оптимизма нет. А есть опасения, что язык — не та сфера, где десятилетку можно выполнить за четыре года».

З іроніяй, згадаўшы некаторыя крокі ў накірунку беларусізацыі, Герасімава робіць вывад: «Чистой и красивой белорусской речи не прибавилось. Ни на улицах, ни в госучреждениях, ни даже в парламенте. А ведь язык жив не тогда, когда на него переведено делопроизводство, а когда на нём разговаривают граждане». З першай часткай сцвярджэння можна згадзіцца, аднак з другой — ніяк нельга. Чамусьці Святлана Герасімава не імкнецца раскрыць вытокі прычын, а коўзаецца па паверхні фактаў. Трэба ж называць рэчы сваімі імёнамі.

У сённяшняй сітуацыі асноўная віна наменклатуры. Гэта ж менавіта яна дружна праводзіла «калектывізацыю» ў справе русіфікацыі беларускамоўных школ. Партапаратчыкі былі і супраць прыняцця Закона аб мовах. Яны і сёння сваімі паводзінамі тармозяць адраджэнне роднага слова.

Вось і С. Герасімава абараняе тэзіс, што перавод справаводства на беларускую мову нічога не дасць. Падобны песімізм — бальзам для нацыянальных нігілістаў. Але ж ужо сам факт пераводу справаводства на беларускую мову з'явіцца штуршком да яе авалодання. Бо той, хто займае пэўную пасаду, будзе зацікаўлены вывучаць мову, каб не згубіць працу.

Святлана Герасімава беспадстаўна прыніжае ролю школы ў адраджэнні матчынай мовы: «Возрождать и реализовать закон решили с системы образования, рассудив до гениальности просто: заговорит по-белорусски детский сад и школа — заговорит и республика». С. Герасімава сумняваецца ў гэтым. На яе думку, гэтага чельга ажыццявіць «... в отсутствии белорусскоговорящего демократического общества». Маўляў, стварыце спачатку беларускамоўнае грамадства, тады можаце і матчыную мову ў школе адраджаць. Пакуль жа не будзе выканана гэтая ўмова, то лепей не чапайце школу.

Аргументы не арыгінальныя. Нешта падобнае пісала ўжо і баранавіцкая раённая газета «Знамя коммунизма»: «навучыце спачатку бацькоў размаўляць па-беларуску, а тады ўжо няхай яны вучаць сваіх дзяцей матчынай мове».

А вось якім шляхам зрабіць нешта — адказу я не знайшоў ні ў баранавіцкай газеце, ні ў артыкуле Герасімавай. Праўда, у выступленні апошняй ёсць пэўныя намёкі... І, у прыватнасці, такі, што «языковая проблема решается вначале политически, затем экономически, а уже потом — образовательно» (?!). Вось дык расшыфроўка.

Цяжка сказаць, для чаго спатрэбіўся гэткі артыкул газеце «Рэспубліка»: ці то эпітафія на жывую, не жадаючую паміраць, гаротніцумову, ці то чарговы фіксатар для замацавання нацыянальнага нігілізму ў плямені манкуртаў...

В. СОКАЛ,
выдатнік народнай асветы,
Ляхавіцкі раён.

*Шаноўная рэдакцыя «Нашага слова»!*

*Мне трэба было набыць беларускі каляндар, але нідзе ў Менску я не змог яго знайсці. Адзін мой былы сусед. які цяпер жыве ў Злучаных Штатах Амерыкі, звярнуўся да мяне з просьбай даслаць яму некалькі беларускіх каляндарыкаў і паштовак. Я яшчэ раз абышоў шмат кіёскаў і кнігарняў, але іх так і не знайшоў.*

*Можа Вы ведаеце, дык падкажыце, дзе ў суверэннай Рэспубліцы Беларусь знайсці беларускія каляндарыкі і паштоўкі? Ці можа гэта наогул неіснуючая ў прыродзе з'ява? Тады чаму не выконваецца «Закон аб мовах»? Да якога часу беларусы на Беларусі будуць падвяргацца дыскрымінацыі?*

Васіль РЫЧЫК. г. Менск.

Галоўны мастак выдавецтва «Беларусь» Генадзь Іванавіч Мацур паведаміў, што, пачынаючы з мінулага года, група мастакоў інтэнсіўна працуе над эскізамі беларускіх паштовак. Ужо ў гэтым годзе паступілі ў гандаль беларускія віншавальныя паштоўкі і паштоўкі з выявай нацыянальнай сімволікі, у прыватнасці «Пагоні», а таксама камплект «Гродна на старых паштоўках». Вядзецца распрацоўка эскізаў, якія прысвечаны святам. Так у гэтым годзе ўжо выйшла паштоўка «Вялікдзень», а ў наступным выдавецтва плануе выпусціць паштоўкі да Новага года, да дня нараджэння, да 8 Сакавіка, «Добра жыць ды не тужыць» (да вяселля), «З калядкамі — добрымі святкамі», «Дзяды» і іншыя.

Далей Генадзь Іванавіч падкрэсліў, што яны зацікаўлены выдаваць нацыянальныя паштоўкі вялікімі тыражамі ад 50 да 100 тысяч. Але на самай справе тыраж не перавышае і 5 тысяч. Прычын некалькі. Адна з іх — адсутнасць якаснай паперы. Яна паступала ў асноўным з-за мяжы, у прыватнасці з Фінляндыі. Цяпер даводзіцца выкарыстоўваць толькі старыя запасы з мінулых гадоў. На наступны год паперы яшчэ няма. Дзяржкамдрук не забяспечыў. Відаць, давядзецца купляць самім па высокіх цэнах на біржах. Другая прычына — незацікаўленасць Упраўлення кніжнага гандлю «Белкнігі» ў распаўсюджванні нацыянальных паштовак, якое праводзіць экспертызу і вырашае (зачастую ў асобе аднаго чалавека), што паштоўкі купляцца не будуць, і... памяншаецца тыраж з 50 да 5 тысяч.

Што датычыць беларускіх каляндароў, то Генадзь Іванавіч адзначыў, што ў мінулым годзе выйшаў адрыўны каляндар на 1991 год «Родны край». У ім змешчана інфармацыя пра важнейшыя даты і падзеі, звесткі пра гісторыю, культуру, народную гаспадарку Беларусі, карысныя парады па вядзенні хатняй гаспадаркі, выхаванні дзяцей. Такі ж каляндар будзе выпушчаны і на 1992 год. Плануецца выхад «Беларускага народнага календара» на 1993 год. Нацыянальныя абрады, звычаі, прыкметы, павер'і, прыказкі складаюць змест гэтага насценнага календара з 12 лістоў. На першай старонцы кожнага ліста мастацка-вобразнае ўвасабленне падзей і з'яў месяца, на другой (адваротнай) — тэкставы матэрыял.

Выдавецтва «Беларусь» мае сваю кнігарню ў падземным пераходзе на станцыі метро «Плошча Перамогі», дзе можна набыць беларускія паштоўкі і календары.

Л. БАРШЧЭЎСКАЯ.

# СЛОВА... У ВАЙСКОВАЙ ФОРМЕ

*«Наша слова» — штотыднёвае выданне. Яму ў гэтым сэнсе не стае аператыўнасці. Да таго ж, пагадзіцеся, мы маем і абмежаваную колькасць чытачоў. Тым болей — у вайсовым асяродку. Таму аўтар гэтых радкоў і вырашыў расказаць пра працу Сержука Чыслава чытачам акруговай газеты «Во славу Родины». Матэрыял «Родная мова... в военном мундире» і быў надрукаваны на яе старонцы ў дзень адкрыцця I з'езда Беларускага згуртавання вайскоўцаў — 12 кастрычніка 1991 года.*

*Газета ж «Звязда» зрабіла пераклад і перадрук матэрыялу з расійскага тэксту, не ўзгадніўшы публікацыю з аўтарам. Пры гэтым быў дапушчаны шэраг памылак, аб чым і лічу сваім абавязкам папярэдзіць чытачоў.*

**З Сяржуком Чыславым мы пазнаёміліся на адным са сходаў Беларускага згуртавання вайскоўцаў. Лейтэнант запасу. За плячыма — вучоба ў Менскім вышэйшым вайсковым інжынерным зенітна-ракетным вучылішчы, служба на адной з «кропак» у далёкім Забайкаллі. І як пастаянны спадарожнік — цікаўнасць да роднай мовы, да ўсяго беларускага. А ў выніку карпатлівая праца па складанні практычнага тэрміналагічнага вайсковага слоўніка на роднай мове.**

**— Прызнацца, я, мусіць, таксама з таго пакалення,— кажа спадар Сяржук,— што не нарадзілася з патрыятычнымі настроямі, а набывала любоў да роднай мовы, да культуры пад уплывам нейкіх важных падзей у краіне і свеце. Са мною было так. Служыў далёка ад Беларусі. Былі там землякі, але паяднання паміж намі, беларусамі, не адчувалася. Збяруцца разам армяне, узбекі — абавязкова гавораць па-свойму. А мы быццам сваёй мовы не ведаем, і ўвогуле саромеемся таго, што беларусы.**

**— Але калі было гэтакае адчуванне, ці не спрабавалі вы неяк усё ж аб'яднаць землякоў, згуртаваць з дапамогай роднага слова?**

— Яшчэ напрыканцы вучобы ў Менскім вайсковым вучылішчы я са сваімі аднадумцамі паспрабаваў стварыць беларускую суполку. І ведаеце, нешта зварухнулася ў людзях! Сам характар іхніх думак стаў мяняцца. Хаця і здзіўляла (як і цяпер працягвае здзіўляць) нейкая «каўбасная» псіхалогія многіх равеснікаў. Што, маўляў, мова, калі есці няма чаго... А мо таму і есці няма чаго, што пра мову ў свой час не паклапаціліся?..

**— Сяржук, ведаю, што вы займаецеся стварэннем беларускага вайсковага слоўніка.**

**— Па-першае, я ўпэўнены, што ў недалёкай будучыні Беларусь будзе мець уласнае нацыянальнае войска. А калі так, то не на замежнай жа мове давядзецца весці ў ім прафесійную гаворку... Пра стварэнне вайсковай тэрміналогіі на беларускай мове клапаціліся нашы суайчыннікі яшчэ ў дваццатыя — трыццатыя гады. У прыватнасці, 1927 годам пазначана праца М. Байкова і А. Бараноўскага «Практычны беларускі вайсковы слоўнік. Частка 1. Расейска-беларуская». А ў 1933 годзе быў выдадзены «Ваенны руска-беларускі слоўнік». Яго ўкладальнікі, праўда, залічылі сваіх папярэднікаў у «нацдэмы». Але гэтым сабе будучыню не забяспечылі — загінулі і яны ў ГУЛАГу. Зазначу, што за той невялікі прамежак часу было зроблена шмат. Ваенная камісія, дарэчы, працавала яшчэ пры Інстытуце беларускай культуры. Тады ж Дзяржаўнае выдавецтва БССР мела ваенную рэдакцыю. Накладамі ад пяці да дзесяці тысяч паасобнікаў выдаваліся брашуры, падручнікі для малодшых камандзіраў. Літаратурная, публіцыстычная творчасць вайскоўцаў аб'ядноўвалася ў калектыўныя зборнікі.**

**— Вы расказваеце ўсё гэта, а я думаю, што ў наш час уся «ўра-патрыятычная» літаратура пра армію выдаецца выключна на рускай мове. Летась было заяўлена, што выданне маладзёжнага вайсковага часопіса «Баявы таварыш» будзе беларускамоўным. Дакладней кажучы, збіраліся маскоўскі часопіс «Боевой товарищ» выдаваць і па-беларуску. А мо так яно і добра, што на тым абяцанні ўсё скончылася. Усё адно той часопіс не стаў бы беларускім, таму што няма дасканалых беларускіх найменняў вайсковай тэрміналогіі.**

**— Гэта не зусім так. Найменні ў большасці сваёй ёсць. Слоўнік 1927 года — база і для маёй працы. Перш чым уводзіць наватворы, патрэбна як след уважліва агледзець зробленае папярэднікамі. Шмат цікавых знаходак, дарэчы, сустрэлася мне ў «Страявым статуце», выдадзеным у 1943 годзе ў Менску. Склаў яго Віталь Мікула, артылерыйскі афіцэр. Зразумела, што карыстаўся ён найперш нямецкай вайсковай тэрміналогіяй. І тым не менш узнікае ўражанне, што «Страявы статут» у некаторай ступені калька з савецкіх вайсковых статутаў.** Дарэчы, мова наша багатая, у ёй даўно бытуюць многія тэрміны вайсковай лексікі. Услухайцеся хаця б у такія словы. Прысяга-прырачэнне. Мотастралок — воін-драб, альбо драб. Пяхота — драбы. Ці вось як у Ластоўскага: строй — шыхт. А каманды з страявога статута: шыхтуйся! Зважай!.. А нашыя часопісы, газеты, мастацкая літаратура карыстаюцца па-звычцы калькай з расійскай мовы.

**— Сяржук, а ці можна сёння спадзявацца, што сабраныя табою беларускія вайсковыя найменні ўвойдуць у маўленне вайскоўцаў?**

— На гэта пытанне адкажу так: слоўнік я адправіў на рэцэнзію ў... Казахстан. Хто пастаянна чытае «Наша слова», той не здзівіцца і зразумее, у чым справа. Мой кваліфікаваны і зацікаўлены рэцэнзент — падпалкоўнік Станіслаў Суднік, шчыры руплівец на ніве адраджэння беларускай мовы. Дарэчы, ён і сам займаецца складаннем беларускага вайсковага слоўніка...

— Прыемна, што ваша праца мае такіх прыхільнікаў.

— Больш таго, я спадзяюся яшчэ і на беларускае замежжа. Як ні дзіўна, беларуская вайсковая тэрміналогія шырока выкарыстоўваецца ў эміграцкім друку. У прыватнасці, газету «Зважай» з поўным правам можна назваць беларускай вайсковай газетай. Такога выдання, на жаль, мы ў сябе не маем. Вайсковая тэрміналогія — прадмет зацікаўленасці Беларускага Вызвольнага Фронту, штаб-кватэра якога знаходзіцца ў Аўстраліі.

— Казахстан, Аўстралія, Амерыка... А ў нас на Беларусі ці робіцца што?

— Адзінае, што мы маем на сённяшні дзень, дык гэта пашырэнне ўжытку вайсковай тэрміналогіі ў асяродку скаўцкага руху. І ўсё ж бачанне перспектыў у мяне самае шырокае, бо мы цяпер незалежныя, а значыць, гаспадары ў сваім доме. Стварэнне нацыянальнага войска стане стымулам для навукоўцаў і аматараў распрацоўваць і выдаваць тэрміналагічныя вайсковыя слоўнікі для практычнага ўжытку.

— Дзякуй, Сяржук, за размову. Спадзяюся, што не за гарамі той час, калі мы будзем мець грунтоўны беларускі слоўнік вайсковай тэрміналогіі.

Распытваў
Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.

# МОВУ ДЭТЭКТЫЎ?

— Балтскі этнагенез яшчэ моцна прысутнічае ў беларусах. Вучоныя кажуць, што кітайцы і менавіта беларусы найменш паддаюцца асіміляцыі. Але... сказаў жа неяк колішні «галоўны» камуніст рэспублікі А. Малафееў, што ён «не видит особой разницы между русским и белоруссом». Да нас едуць люмпены, няўдачнікі, а следам і злачынцы з усіх куткоў былога СССР. Мы ж... «талерантныя». Эмісары з Каўказа шнырають па нашых гарадах і вёсках, наладжваюць мафіёзныя структуры, ствараюць капітал. Прыклады?

Нядаўна ў Барысаве каўказцы прапанавалі 12 мільёнаў рублёў за гарадскі Дом быту. Цынічна дадалі, што гатовы набыць яго разам з рабочымі. Толькі, маўляў, жанчын старэй за 30 гадоў ім не трэба. Дзе і які народ сцерпіць гэткую абразу?!

Герой майго дэтэктыва сышчык Антон Лашкевіч змагаецца супраць мясцовых і «залётных» злачынцаў. Ён — дэтэктыў-інтэлектуал, бо мае свае, дакладна вызначаныя арыенціры ў палітычных варунках. Будучы «кандыдатам у супермены», Антон дзейнічае падобна да героя курасаваўскага фільма пра самураяў: прама і непахісна змагаецца са злом. Жорстка ўсё — і змаганне, і само дабро, але ж такі час. Дабро абавязкова павінна перамагчы.

Так, у маім дэтэктыве крыху нязвыклая канструкцыя сказаў, дыялогаў. Але ж гэтая «амерыка» ўжо адкрыта Дэлібесам і іншымі. Што ж датычыцца моўных новаўтварэнняў, то яны будуць і павінны быць. У нашай літаратуры амаль не распрацаваны блатны жаргон ці так званая «феня». Даводзілася бываць у «зоне», сустракацца з блатнымі. Наша беларуская «феня» шмат у чым розніцца ад расійскай. У нас гавораць: «пысу распішу». А рускія: »морду попишу» і г. д. А без жывой жа мовы, пагадзіцеся, тканіна сказа вельмі і вельмі штучная.

Хочацца верыць, што з часам беларусы будуць чытаць дэтэктывы на роднай мове, і беларускія пісьменнікі не будуць у ролі чужых у сваёй краіне.

Распытваў
Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.

## *«Беларашн рэв'ю»*




**Выйшаў апошні ў гэтым годзе нумар англамоўнага штоквартальніка «Беларашн рэв'ю». На першай старонцы — слова ад рэдакцыі, дзе паведамляецца пра важнейшыя падзеі на Бацькаўшчыне: абвяшчэнне незалежнасці Беларусі, новую яе назву — Рэспубліка Беларусь, зацвярджанне беларускага нацыянальнага бел-чырвона-белага сцяга і старажытнага герба «Пагоня». Тут жа рэдакцыя выказвае свае спадзяванні, што цяпер, магчыма, усталююцца цесныя сувязі з іх карэспандэнтамі ў Беларусі, паколькі да гэтага часу матэрыялы часта падлягалі цэнзуры і не даходзілі ў Злучаныя Штаты Амерыкі.**

**Пад рубрыкай «Думкі і назіранні» змешчаны артыкул галоўнага рэдактара бюлетэня Джо Прайса «Незалежнасць Беларусі». У ім ён робіць кароткі экскурс у гісторыю Беларусі, падрабязна апісвае дзейнасць парламенцкай апазіцыі ў тыя крытычныя жнівеньскія дні, калі яна выступіла ў абарону дэмакратычных перамен. Апублікавана таксама інтэрв'ю з народным дэпутатам Рэспублікі Беларусь У. Новікам. Ён у верасні г. г. наведаў Злучаныя Штаты. Да ўвагі чытача прапанавана таксама інтэрв'ю амерыканскага кангрэсмена Д. Рорабакера пра распад Савецкага Саюза, якое ўжо надрукавана ў адным з папярэдніх нумароў «Нашага слова».**

**Пад рубрыкай «Пагляды» змешчаны артыкул П. Рагача «Лацінская версія беларускага алфавіта», дзе ён раскрывае гісторыю ўзнікнення лацінкі, паказвае яе перавагу і лічыць, што пераход на лацінскі алфавіт — неабходная ўмова паскарэння працэсаў адраджэння ў Беларусі. Тут жа чытач знойдзе правілы беларускага вымаўлення.**

**Пад рубрыкай «Беларускае замежжа» публікуюцца кароткія нататкі з жыцця беларускай эміграцыі, у прыватнасці, пра ўдзел беларусаў у канферэнцыі канадскіх славістаў, дэманстрацыю ў Нью-Йорку ў падтрымку В. Сядова, што адбылася 18 чэрвеня г. г., групу амерыканскіх беларусаў з Лос-Анджэлеса, якая звярнулася да прэзідэнта Буша з заклікам прызнаць незалежнасць Беларусі.**

**У нумары друкуюцца таксама выпісы з бягучага друку і лісты ад чытачоў.**

Л. БАРШЧЭЎСКАЯ.

*У Жодзіне адкрыта новая царква, пабудаваная мясцовымі народнымі ўмельцамі ў традыцыях паўночнарускіх храмаў усяго за дзевяць месяцаў.*

*Узведзена царква ў гонар святога архангела Міхаіла і асвечана Мітрапалітам Менскім і Гродзенскім Патрыяршым экзархам усея Беларусі Філарэтам. Мастак А. Марачкін, сам родам з гэтых мясцін, падарыў храму карціну Маці Божая ахвяр Чарнобыля.*

*НА ЗДЫМКУ: новая царква ў Жодзіне.*

*Фота Валерыя* ***АЛЯШКЕВІЧА (БЕЛТА).***



# Лякарня чараўніцы Потахі

**БАРКУН ЛЕКАВЫ. Чай з напару кветак баркуну 30 г на 1 л кіпетню п'юць пры грудных хваробах па віннай чарцы (50 г) кожную гадзіну. Кветкі баркуну ў невялікіх дозах уваходзяць у розныя грудныя сумесі лекавых раслін.**

**МЕДУНІЦА (ШЧАМЯЛІЦА) ЛЕКАВАЯ І МЕДУНІЦА НЯЯСНАЯ. Народ ужывае дзве медуніцы як адхарквальны сродак пры бранхітах, запаленні слізістых дыхальных шляхоў і пры іншых грудных захворваннях, якія суправаджаюцца сухім кашлем і хрыпатой. Звычайна ўжываюць медуніцу ў напары 30—40 г на 1 л вады.**

**РАСЛІНЫ, ЯКІЯ ЎЖЫВАЮЦЦА Ў НАРОДЗЕ ПРЫ ЛЯЧЭННІ ХВАРОБ СКУРЫ, А ТАКСАМА РАН І БОЛЕК, ШТО ДОЎГА НЕ ЗАЖЫВАЮЦЬ.**

**Як і ў папярэдніх раздзелах, тут маюцца на ўвазе перш за ўсё хваробы, якія ўзнікаюць у выніку парушанага абмену матэрыі ў арганізме хворага чалавека.**

**КАШТАН КОНСКІ. Сок са свежых каштанавых кветак па 20—30 кропляў на 1 сталовую лыжку вады прымаюць 2 разы на дзень пры расшырэнні вен на нагах і пры апуханні гемараідальных гузоў. Пасля доўгага ўжывання соку кветак каштана гемараідальныя болі праходзяць, і, калі хвароба не запушчана, гузы знікаюць.**

**Сцвярджаюць, што хоць і слабей, але таксама дзейнічае сок з кветак, разбаўлены спіртам (1 частка соку на 2 часткі спірту); прымаюць па чарцы (30—40 г.) 3 разы на дзень.**

**Водны адвар кары галінак каштанавага дрэва, 50 г на 1 л вады, ужываюць для сядзячых ваннаў пры гемараідальных кровацячэннях, калі гузы яшчэ звонку (пры «вонкавым гемароі»). Ванна (прахалодная) на працягу 15 мінут. Для такіх жа ваннаў выкарыстоўваюць адвар кары галінак каштана і травы вадзянога перцу.**

*Пішам, вымаўляем*

## «Дазвольце падзякаваць вас...»

Гэтую фразу можна пачуць даволі часта і па радыё, прычым не толькі з Віцебска, але і з Менска, і па тэлебачанні. Мне, як і любому беларусу, яна «рэжа» вуха.

Але як зразумець карэспандэнта радыё ці тэлебачання, які, беручы інтэрв'ю, заканчвае яго такой жа фразай. А калі яна гучыць у шаноўнай перадачы «Ліра», то і зусім няёмка. Перадача ж літаратурная! Не хочам вучыцца ці што?

Дзякуй!

**І. ФУРСЕВІЧ.**
**г. Докшыцы.**

*У свеце слоў*

## Галоснасць ці голаснасць?

У апошнія гады навукоўцаў непакоіць слова «галоснасць» — калька з рускага слова «гласность» — пушчанае кімсьці ў абыходак на пачатку перабудовы. Выступленні некаторых пісьменнікаў, напрыклад Янкі Брыля, актывізавалі такія адэкваты як «публічнасць», «адкрытасць». Аднак не-не, ды і прамільгне ў друку «галоснасць». Нават і ў «Нашым слове». А ці правамерна яно ўжываецца? Звернемся да супастаўлення аднакаранёвых слоў «глас», «гласить», «гласно» (гласность) з беларускімі адпаведнікамі. Паводле Руска-беларускага слоўніка (другое дапоўненае выданне, 1982): *глас — голас; гласить — апавяшчаць, абвяшчаць, гаварыць, казаць; гласно (гласность) — публічна і публічнасць.*

Ёсць яшчэ рускі прыметнік «гласный», адно з яго значэнняў у беларускай мове такое: «адкрыты», «публічны»: *гласный суд — публічны суд.* Выходзіць, што слову «гласность» не адпавядае па сэнсу яго аўтаматычна-механічны пераклад на беларускую мову («галоснасць»). Магчыма, такому перакладу спрыяюць словы «голас», «галасавацъ», «галасісты», «галасістасць», «галасны» і інш. Але гэта ўжо, як гаворыцца, «голас» з іншай оперы. Бо *глас* — гэта *голас, гласно — голасна, уголас, у публічна адкрытай форме,* а *гласность — гэта голаснасць, публічнасць, адкрытасць.* Як і *доказнасць, колернасць, роздумнасць, тоеснасць.*

**Мікола АБАБУРКА.**
**г. Магілёў.**

# «ЧАСОПІС»

З друку выйшаў чарговы нумар «Часопіса» (№ 10-11), які выдаецца ў Беластоку. «Праваслаўная старонка», якую рыхтуюць студэнты, адкрываецца «Кароткім нарысам кананічнага становішча праваслаўнай царквы беларускага народа».

«...Яшчэ адзін круты паварот, крыху пад горку і перад вачыма пачала прасціраецца шырокая панарама Мельніцкай зямлі: надбужныя лясы, Замкавая Гара і руіны касцёла св. Мікалая пад ею, крыху ніжэй купалы Багародзічнай царквы. Абеднее сонца грэла прыемна. Лета, хаця пад свой канец, аддавала належнае. Было 31 жніўня 1991 года...»—так пачынаюцца нататкі Міколы Сахарэвіча «Музычныя «маналогі» над Бугам» пра музычнае свята, якое адбылося на беразе Мельніка, які «застаецца месцам супольнага пражывання людзей розных светапогляду, нацыянальнай ці кансумпцыйнай свядомасці. Так было тут ад вякоў. Мельнік — гэта «своеасаблівы Вольны горад», асяродак узаемапранікнення пасяленчых плыняў з Палесся, Валыні, Чорнай Русі ці Мазовіі. Таму перад Мельнікам стаіць перспектыва быць месцам сапраўдных дыялогаў культуры беларускай, украінскай і польскай.»

З цікавасцю чытаецца артыкул Ю. Весялкоўскага «Польска-Украінскае Монтэ Касыно».

На гэты раз у «Часопісе» беларускамоўных матэрыялаў няшмат. Але, калі параўнаць «Часопіс» з некаторымі нашымі рэспубліканскімі выданнямі, якія змяшчаюць матэрыялы на дзвюх мовах, то ў «Часопісе» беларускамоўных не так ужо і мала.

**В. Ш.**

*І смех, і грэх*

## ДЫЯЛОГІ НА ВЯСКОВАЙ ЛАЎЦЫ



— Чаму гэта наш старшынька забракаваў Федзькубрыгадзіра? Такі іспаліцельны быў, пакладзісты, начальству гадзіў. Сама бачыла, як танцаваў перад імі.

— Танцаваць то ён, Гэлечка, танцаваў, ды не кланяўся.

* * *

— За што толькі Бог пакараў Юрыка? Жонка, не пры нас кажучы, каторы год з ложка не ўстае, сам на старасць без ног застаўся. А яшчэ гэты сын п'яніца. Так ужо здзекуецца, так здзекуецца. Каб яго зямля не насіла!

— Праўду некалі казаў мой пакойны Міхась: вырасці сабе крумкача, дык ён табе і вочы выдзяўбе!

— А ці не тое ў Мані Казымеравай з дачкой? Матку ні ў грош не ставіць! Гэта ж дадумацца трэба: справадзіць старую ў верандзе жыць! А яна, колькі помню, усё жыццё над гэтай дзёўчынай трэслася.

— Вот і выпесціла змейку на сваю шыйку.

* * *

— Сын Гарошыхі, як у кіпаратары падаўся, дык як калядная ёлка прыбраўся. Ужо на машыне сваёй прыязджаў. Некай інпартнай. Казалі, руль з правага боку...

— І мацеры з бацькам усяго панавалакаў. Ходзіць па сяле — тычкай носа не дастанеш: жыць умее!

— Ну і што ўжо робіцца! Гультай жа несусветны, задрыпа і раптоўне «дастойным» чалавекам стаў.

— А ў цёмным месцы, Наста, і гніляк свеціцца.

* * *

— Думаеце, я праўды дабілася ў тым сельсавеце? Хаця каб... Хвігай нос падцёр мне начальнічак-дземакрат. Маёй бядой мяне яшчэ і высцебаў!

— А ты знайшла заступніка! Забылася, кім ён раней быў? Воўк то ліняе, ды нораву не мяняе.

*Учула Любоў* ***ЛАМЕКА.***

### ПЫТАННІ

* Ці можа быць светлая будучыня з цёмнага мінулага?

* Як спець лебядзіную песню, калі табе мядзведзь на вуха наступіў?

*Пародыя*

### АДВЕЧНАЯ ТЭМА

*Аляксей Ненадавец*

*Носіць матуля вязкамі*
*Водар лугоў з гумна...*
*Мова мая славянская*
*Жывіца там здаўна.*

«Спадчына — песня матчына»
М. Скобла.

Доля мая сялянская:
Конік, кароўка адна,
Сена з-пад лесу духмянае,
Так павялося здаўна.
Маці, галубка сіненькая,
Корміць жывёлу з рання.
Носіць ёй велькімі вязкамі
Водар лугоў з гумна.
Мова мая славянская
Жывіца там ад веку...
І Муза галодная хрумстае:
Паранку, бульбу і віку.
Яшчэ канюшыну садовую
Змешваю ёй з буракамі,
(Як добра яна падсілкуецца,
Дык з месяц трашчыць радкамі!).
Ну, а ў хвіліну вольную,
Думаю думу адну:
А раптам праз дзверы гуменца
У класікі заўтра сягну?

### АДКАЗЫ НА КРЫЖАВАНКУ-ПЕРАКЛАД, ЗМЕШЧАНУЮ Ў № 43

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ: 1. Жыгучка. 4. Палясоўшчык. 6. Здалёк. 7. Айчына. 9. Попыт. 10. Вазоўня. 12. Абраз. 14. Екат. 15. Ягня. 16. Шчыры. 17. Стáлы. 21. Развага. 23. Енчыць. 26. Ткалля. 28. Аглядальнік. 29. Кавадла.**

**ПА ВЕРТЫКАЛІ: 1. Жыллё. 2. Удоўж. 3. Адчай. 4. Пласт. 5. Крыхá. 6. Запазычанне. 8. Абрабаваныя. 9. Птушаня. 10. Вакамер. 11. Ячнішча. 13. Забыццё. 18. Газа. 19. Апад. 20. Сучча. 22. Шалік. 24. Цалік. 25. Крама. 27. Конна.**


РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ

Рэдактар Эрнэст Ялугін.

Сябры калегіі: Янка Брыль, Анатоль Бутэвіч, Ніл Гілевіч, Уладзімір Дамашэвіч, Алесь Камароўскі, Анатоль Клышка, Алег Куліцкі, Уладзімір Ламека, Уладзімір Содаль, Алесь Траяноўскі, Генадзь Тумаш, Яўген Цумараў, Генадзь Цыхун, Міхась Шавыркін.

Адказны сакратар Анатоль Сілянкоў.



Наш адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13.

Тэлефон рэдакцыі: 33-17-83.

Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара неабавязкова можа адпавядаць меркаванню рэдакцыі.

Рукапісы рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае.

МВПА імя Якуба Коласа. Мінская паліграфічная фабрыка «Чырвоная Зорка».

Наклад 5.058 паасобнікі. Зак. 2473. Індэкс 74975.